*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 47(432) 24 ЛІСТАПАДА 1999 г.

## Рэспубліканская Рада ТБМ імя Францішка Скарыны

21 лістапада 1999 года ў Менску, у дольнай зале Чырвонага касцёла прайшло паседжанне Рэспубліканскай Рады ТБМ імя Францішка Скарыны. Рада працавала ў адпаведнасці з раней абвешчаным парадкам дня. У прыватнасці быў прыняты План работы ТБМ на 2000 год, зацверджаны старшыні і склады камісій ТБМ, утвораны аргкамітэт па правядзенню Рэспубліканскай канферэнцыі, прысвечанай 10-годдзю Закона аб мовах і разгледжаны іншыя мерапрыемствы з гэтай нагоды. Адрэдагаваныя дакументы Рэспубліканскай Рады будуць надрукаваныя ў бліжэйшы час.

## Дзесяць вякоў беларускай гісторыі

У Вільні ў выдавецтве "Наша будучыня"толькі што выйшла сумесная кніга Ўладзіміра Арлова і Генадзя Сагановіча "Дзесяць вякоў беларускай гісторыі". Аўтары займальна і даступна расказваюць пра найбольш значныя падзеі дзесяці стагоддзяў, якія Беларусь прайшла з часоў легендарных Рагнеды і Рагвалода. Гэтая своеасаблівая кроніка пачынаецца ад 862 года, пад якім летапісы ўпершыню згадваюць Полацк і заканчваецца 25 сакавіка 1918 года, калі была абвешчана незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі. У кнізе чатыры асноўныя раздзелы: "Старажытныя беларускія княствы", "Вялікае Княства Літоўскае", "Беларусь у Рэчы Паспалітай" і "Беларусь у Расейскай імперыі". Чытачу прапануюцца храналагічныя табліцы, дзе даты беларускай мінуўшчыны падаюцца параўнальна з падзеямі сусветнай гісторыі. Кніга багата ілюстраваная мініяцюрамі летапісаў, сярэднявечнымі гравюрамі з беларускіх і заходнееўрапейскіх старадрукаў, рэдкімі фотаздымкамі.

Першая прэзентацыя новай кнігі адбылася 9 лістапада ў Віленскім педагагічным універсітэце, дзе прысутнічалі студэнты, вучні Віленскай беларускай школы імя Францішка Скарыны, прадстаўнікі навуковай і творчай інтэлігенцыі, шматлікія журналісты. Наклад кнігі 5000 асобнікаў.




## СВЯТКАВАННЕ ДНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ ПОЛЬШЧЫ Ў МЕНСКУ

11 лістапада Польшча адзначала сваё галоўнае свята Дзень Незалежнасці. Як вядома, 123 гады палякі змагаліся за сваю вольнасць. Шанец вярнуць яе надарыўся падчас Першай сусветнай вайны, якая прывяла да капітуляцыі Аўстра-Венгрыі і Германіі. У Расіі ж у гэты час ішла рэвалюцыя. Відавочна, захопнікі цярпелі паражэнне. Гэтую сітуацыю і выкарыстаў польскі народ. Польскія аддзелы на працягу літаральна некалькіх дзён правілі, так бы мовіць, "зачыстку" сваёй тэрыторыі. Дзень 11 лістапада 1918 года ўвайшоў у гісторыю краіны, як свята Незалежнасці. Наколькі дарагі гэты дзень палякам, можна меркаваць па тых імпрэзах, якія ладаваліся Амбасадай Рэспублікі Польшчы і Польскім інстытутам у Менску. У праграме Польскага тыдня – паказ кінастужкі К. Кеслеўскага "Кароткі фільм пра каханне", прэзентацыя выдавецтва "КАРТА" і выстаўка "Перамены ў Цэнтральна-Усходняй Еўропе", выступленне Пасла Рэспублікі Польшчы ў Рэспубліцы Беларусі пана Мар'юша Машкевіча на Беларускім тэлебачанні. Значнай падзеяй у культурным жыцці Беларусі стала выстава поўнага збору нотаў і запісаў твораў Станіслава Манюшкі, а таксама перадача нашай Нацыянальнай бібліятэцы дару"Фонду дапамогі палякам на Ўсходзе".

Імя Станіслава Манюшкі вядомае ва ўсім свеце. На жаль, у нас да гэтага часу яно належным чынам не ўшанаванае, нягледзячы на тое, што гэты знакаміты кампазітар нарадзіўся ў фальварку Убель на Чэрвеньшчыне, жыў у Менску на вуліцы Інтэрнацыянальнай, 21, вучыўся – на Інтэрнацыянальнай, 19. Пры жыцці ў Беларусі выдаваліся яго творы, ставіліся спектаклі, у тым ліку і з ягоным удзелам як дырыжора. На пляцы Волі ў Менску было ажно 4 тэатры, і ва ўсіх іх адбываліся імпрэзы, звязаныя з імеме Машюшкі. Аднак мы не захавалі таго, што павінны былі захаваць. І толькі зараз спрабуем вярнуць у нашу музычную культуру спадчыну слаўнага сына Беларусі. Дзякаваць, нам спрыяюць суседзі. З дапамогай Польскай Амбасады ў апошнія гады былі выдадзены тры нотныя зборнікі. Гэта песні Манюшкі на вершы Яна Чачота, Уладзіслава Сыракомлі, Адама Міцкевіча. Падарунак польскіх сяброў Нацыянальнай бібліятэцы дасць магчымасць прыступіць да нармальнага вывучэння твораў кампазітара, да стварэння навуковага кірунку – Манюшказнаўства. Такія думкі выказаў падчас імпрэзы спявак Віктар Скарабагатаў, дзякуючы ініцыятыве і пастаяннай карпатлівай працы якога Манюшка вяртаецца на радзіму. На імпрэзе прагучалі творы Манюшкі ў выкананні Лесі Люд, Тацяны Цыбульскай, Віктара Скарабагатава і Ганны Каржанеўскай. Згадаем, што сёлета Станіславу Манюшку споўнілася 180 гадоў. Мы ж толькі пачынаем адраджаць мемарыяльныя мясціны, звязаныя з ягоным імем.

11 лістапада, у дзень Незалежнасці, у Менску адбылася ўрачыстая вечарына і канцэрт. Гэта было сапраўднае свята. Свята песні, музыкі і мовы. Польская мова гучала паўсюль. У гэты вечар яе можна было пачуць у зале сярод прысутных. Панавала яна і на сцэне ў змястоўных прамовах і канцэртных нумарах. Асаблівае захапленне выклікала выступленне дзяцей. У літаратурна-музычнай кампазіцыі, якую яны паказалі, рэфрэнам гучалі словы: пакуль мы жывем. Польшча не згіне. Мне падумалася, што менавіта дзеля захавання моўнай чысціні, польскага духу, які панаваў на ўрачыстасці, нікому з беларускага боку, нават прадстаўніку Міністэрства культуры, які прысутнічаў, слова не прапанавалі: слухайце, глядзіце, вучыцеся.

У рамках Польскага тыдня, акрамя згаданых, адбыліся і іншыя цікавыя імпрэзы.

*Ірына Марачкіна, адказны сакратар ТБМ.*

## *Беларускія СМІ пра беларускую мову*

*Агляд і каментары Язэпа Палубяткі*

... Але супакоіць не змаглі, бо я ўжо немалады чалавек і шмат на сваім вяку пабачыў: гэта на беларускую мову пераходзіць марудна і няпроста, а на рускую – раз плюнуць. Заўсёды знойдуцца два-тры агрэсіўных бацькі – актывісты з тутэйшых малаадукаваных манкрутаў ці з прыезжых шавіністаў і падымуць лямант ў "абарону" рускай мовы. А родную бараніць не будзе каму, бо мы, беларусы, надта ж памяркоўныя, нам "абы не было вайны". Дык, можа, і праўда мы людзі другога гатунку, і хай намі кіруе набрыдзь?

**Уладзімір Дарагуж**
**Народная воля 12.11.99г.**

*Добрая кніга на роднай мове – наша духоўная апірышча, наш сябра і дарадца у жыцці.*

***Ірына Пархоменка 14 гадоў***
***Народная воля 12.11.99г.***

Пра мову, як пра хлеб надзённы. трэба дбаць кожны дзень. Тады яна будзе квітнець і развівацца. Гэта – як паліваць дрэвы і кветкі.

**Уладзімір Дамашэвіч**
**ЛіМ 12.11.99г.**

*Калі я на развітанне папрасіў князя прыгадаць са свайго юнацтва колькі слоў па-беларуску, ён са змоўніцкім выглядам адхіліў рукой дыктафон і прыцішаным голасам вымавіў: "Жыве Беларусь!"*

***Міхась Скобла, ЛіМ 12.11.99г.***
***P.S. З інтэрв'ю з князем Яўстахам Севярынам Сапегам.***

Па-мойму, нельга больш абразіць нацыянальныя пачуцці беларуса, як выдаць яго гісторыю не на роднай мове, ды яшчэ для школы. Пры жывым народзе пісаць гэтую гісторыю на іншай мове, хай сабе і нам блізкай, - гэта страта ўсякай палітычнай арыентацыі ў такім важным пытанні, як нацыянальнае.

**Уладзімір Дамашэвіч.**

*Той, хто зразумеў, што яго родная мова не горшая за рускую і ён не прамяняе яе на чужую, той, выходзіць, "нацыяналіст"?*

*А хто адракаецца ад свае роднае – той, выходзіць, "герой свайго часу"? Вось гэта новы від "геройства"! Нечуванага, нябачнага!*

***Уладзімір Дамашэвіч.***

Калі я люблю сваю матку, яе мову, яе веру, то я абмежаваны? Я павінен адкінуць усё сваё і любіць тое, што кажуць любіць чыноўнікі? Ды яны самі любяць па разліку, а мы любім сэрцам, душою. А душы не загадаем.

Раней тых, хто адракаўся ад усяго, плявалі ў вочы, а цяпер, шмат гадоў запар, ім давалі высокія пасады.

**Уладзімір Дамашэвіч.**

*Цяпер у барацьбе за нашую мову мы калі і загінем, то гісторыя нас апраўдае і мо прызнае нават героямі, а калі мы прамаўчым, калі мы не вернем страчаных пазіцый, не даб'ёмся дзяржаўнасці сваёй мовы, мы праславімся як трусы і баязліўцы на ўсе астатнія стагоддзі. І ўласны народ пракляне нас.*

***Уладзімір Дамашэвіч.***

Дзіўная логіка ў нашых чыноўнікаў! Дваццаць гадоў таму назад яны без усякага на тое права пераводзілі ўсе беларускія школы на рускую мову. Ніхто не чуў і не бачыў ніякага загада, указа, пастановы. Усё рабілася беззаконна – насуперак законам! Сёння мы чамусьці не можам тое беззаконне адмяніць перавесці назад тыя школы з рускай мовы зноў на беларускую. Чаму? Чаму мы ўзаконьваем беззаконне? Можа, таму, што прайшло дваццаць гадоў і яно, беззаконне, набыло сілу закона? Дзіўная логіка! Сёння мы рэабілітуем савецкіх людзей якія загінулі ў часе культу Сталіна. Чаму ж мы не рэабілітуем нашай школы, нашай мовы, якая была асуджана на выміранне?

Дзе справядлівасць?

**Уладзімір Дамашэвіч.**
**Запісы канца 80-х... ЛіМ 12.11.99г.**






# Руплівец нівы Адраджэння

**“ I так па здзяйсьненьнях іх пазнаеце іх”**
**(Біблія. Новы Запавет. Ад.Мацея. 7.20)**



Кожны ад Бога атрымлівае розум, вольны час і багацце і распараджаецца імі, як падкажа Душа. А калі Душа яшчэ ад Бога і не знявечана спакусамі д'ябла, то і розум, і вольны час, і ўсё сваё жыццё, і багацце будуць патрачаны не толькі дзеля ўласнай карысці.

10 снежня спаўняецца 60 гадоў вядомаму ў краіне і па-за межамі нашаму славутаму сябру ТБМ, дэлегату першага з'езду, выкладчыку БДУ Анатолю Яўхімавічу Беламу. Няўрымслівы характар Анатоля выдзяляе яго як актыўнага змагара за адраджэнне Бацькаўшчыны, яе культуры, мовы, па ўсведамленню гістарычнай спадчыны. Ён заўжды імкнецца быць прыналежным да шматбаковых кірункаў грамадскай дзейнасці. На ўсіх з'ездах ТБМ абіраецца ў склад яго Рады. У сакавіку 1984 г. стварыў грамадска-асветніцкі клуб “Спадчына” і з таго часу з'яўляецца нязменным яго кіраўніком. Ён сябра Саюза пісьменнікаў і Саюза мастакоў, галоўны рэдактар альманаха “Скрыжалі спадчыны”.

Анатоль Яўхімавіч – вядомы калекцыянер. Ім собрана некалькі тысяч твораў беларускай графікі, каля 600-медальернага мастацтва, каля 500 – жывапісных і 70- скульптурных, каля 100 твораў прыкладнога мастацтва. І ўсё гэта працуе на карысць асветы нашага грамадства праз арганізаваныя ім выставы: “Медальернае мастацтва Беларусі” (Менск, чэрвень 1984), “Кастусь КАліноўскі і студзеньскае паўстанне 1863 г. на Беларусі” (Менск. 1990,1991гг.Магілёў,1991г.). “Францішак Скарына і яго час” (Менск, 1985, 1986, 1990гг., Яраслаўль, 1990г., музей-запаведнік. ЗША, 1990г.), “Любіць Радзіму – шанаваць родную мову” (Менск, 1994,1995гг.), “Гісторыя Беларусі ў мастацкіх вобразах (Менск,1995 г.), “Партрэты дзеячоў нацыянальнага адраджэння” (Менск,1996г.), “Дзеячы Беларускага замежжа” (Менск. 1994, 1996 г.г.). “Уладары старажытнай Беларусі” (Менск, нац. музей гісторыі і культуры Беларусі, 1996г.).

Памятаю, як ладзілася выстава “Любіць Радзіму – шанаваць родную мову” У Палацы культуры Менскага аўтазавода. Калі пасля яе адкрыцця зайшлі ў залу на ўрачыстае паседжанне, дзе больш за тысячу месцаў, то высвятлілася – усе яны занятыя. Сорамна мне ўспамінаць, бо па мойму недагляду Васілю Быкаву, удзельніку яе адкрыцця, нейкі час прыйшлося стаяць. За сродкі, сабраныя ім ад спонсараў, створаны: медныя помнікі Максіму Багдановічу (устаноўлены ў траўні 1994 г. у Яраслаўлі), Францішку Скарыне. Міколу Гусоўскаму, Кірылу Тураўскаму, бюст з сілуміну Адаму Багдановічу (для Менска), помнік Ларысе Геніюш (для Зэльвы), бронзавы бюст Адама Багдановіча (для Яраслаўля), а таксама шыльда на будынку ў Яраслаўлі, дзе з 1915 па 1918 гг. дзейнічаў у эвакуацыі Менскі настаўніцкі інстытут. Адліты помнік Ефрасінні Полацкай. Плануецца стварыць помнікі К.Каліноўскаму, Ул. Галубку, Вас. Цяпінскаму, Сым.Буднаму.

Перавозка, устаноўка помнікаў былі яго ўласным клопатам. Дапамагалі простыя людзі. Напрыклад, кіроўцы аўтамабіляў, што возяць рухавікі на МАЗ згадзіліся завесці помнік Багдановічу, шыльду і шмат ахвяраванай Анатолем Яўхімавічам літаратуры для Яраслаўскага музея. Некалькі разоў тросся і сам у такой машыне да Яраслаўля.

Небасхіл над ім не заўжды бывае светлым. Яго абвостранае пачуце болю за лёс Бацькаўшчыны часта кідае ў вір спрэчак па адстойванні ўласных думак на праходзячых розных форумах. Часам у некаторых узнікаюць непаразуменні і крыўда. Ну, а мы ж “спадчынцы” добра ведаем гэту акалічнасць яго характару і ніколі не крыўдуем на свайго старшыню, бо ведаем, бывае, неардынарныя погляды, а праз некаторы час спраўджваюцца. А вось гэтыя “некаторыя”, часцей за ўсяго, асобы, пэўна ўсведамляючы сябе па-над культурай, па-над мовай, па-над асобай, свайго роду аракулы адраджэння не ўнікаючы ўнутр асобы, яго поглядаў, характару хапаюцца за журналістычнае пяро, каб, як кажуць, даць Беламу над дых. Свае... Пры гэтым трацяць столькі імпэту, як не трацяць на ворагаў беларушчыны. (мо ад зайздрасці). Аднойчы, пасля з'яўлення цэлага цыклу такіх матэрыялаў у даволі вядомай газеце, я не паспачуваў Анатолю, а павіншаваў, бо такога аб'ёму матэрыялаў не заслужыў там столькі ні адзін прыхільнік рэжыму... Спяшаюцца судзіць аб ім, забываючы, што найлепей за іх гэта зробіць час.

Дзяржава не заўжды здольна ацаніць патрыятызм усіх сваіх сыноў, асабліва, калі ва ўладзе людзі выпадковыя, з багажом замшэлага ідэалізму. Часам яна ўзнагароджвае, як мне падаецца, быццам бы дзеля здзеку над самой узнагародай. Можна быць упэўненым, юбілей нашага сябра пройдзе як і многіх знакамітых суайчыннікаў незаўважана. Але, калі дзяржава абыякава ў заахвочванні сваіх грамадзян за актыўны ўдзел у грамадскім жыцці, гэта робяць самі грамадскія арганізацыі. Па ініцыятыве Анатоля Яўхімавіча клуб “Спадчына” першы у Рэспубліцы стаў узнагароджваць тых, хто найбольш актыўна, удзельнічае ў справах адраджэння Бацькаўшчыны, у галінах літаратуры, мастацтва, адукацыі, развіцця і абароны роднай мовы, духоўнасці. Для гэтых мэт устаноўлены: медаль Пагоні, медалі імён славутых суайчыннікаў, ордэн “Гонар Айчыны”, срэбны пярсцёнак з выявай Пагоні.

Сумесна з Менскай гарадской Радай ТБМ арганізаваў выпуск газеты “Голас Беларуса”. З'яўляецца навуковым распрацоўшчыкам, аўтарам і выдаўцом плакатаў – календароў “Радавод Полацкіх і Вялікіх Беларускіх (Літоўскіх) князёў”, “Старажытная Беларусь часоў Вітаўта Вялікага”, “Уладары Старажытнай Беларусі”, аўтарам 10 каталогаў і кніг, каля 150 навуковых артыкулаў пра беларускае мастацтва, яго гісторыю і носьбітаў, даследчыкам мастацкай спадчыны пра К.Каліноўскага і мастацкай дзейнасці Ф. Скарыны.

Матэрыяльныя сродкі Анатоль мае, ад працоўнай дзейнасці. Дапамагае дачка, якой ён можа ганарыцца. Яна актыўна працуе па ўмацаванню еднасці беларускага згуртавання ў ЗША – з'яўляецца рэдактарам часопіса “Полацак”.

Нарадзіўся Анатоль Яфімавіч у знакамітым мястэчку Старыя Дарогі. Знакамітасць горада звязана з самагонкай. Вядома, выгнаць якасную жытнёўку таксама штукарства, як скажам зрабіць тое ж піва, ці віно. З гэтай нагоды некалі ён казаў:

- Хачу, каб яны сталі вядомыя не толькі самагонкай, але і культурным асяроддзем. Ім павінен стаць мой музей.

Сказана – зроблена. Да бацькоўскага дому, згодна адпаведнаму праекту прыбудавана незвычайнага выгляду двухпавярховая прыбудова. Гэта ёсць музей. Каля яго ўваходу ўстаноўлены вялікі валун з шыльдай на якую будуць занесены імёны тых, хто дапамог сваёй працай, удзелам, падтрымкай.

--Мая калекцыя, - гаворыць Белы, - налічвае каля 3000 твораў. Сярод іх ёсць рарытэтныя творы ХУІІ-ХУІІІ стагоддзяў. Па вялікаму рахунку, належаць яны ўжо не мне, а беларускаму народу, з'яўляюцца нацыянальным набыткам. Каб яны не былі страчаны, я і вырашыў стварыць гэты музей.

Адкрыццё музея мяркуецца правесці ў дзень юбілею яго заснавальніка. І дай Божа, каб гэты музей не спаткала доля музеяў знакамітых сыноў – адраджэнцаў нашай Бацькаўшчыны, а яго заснавальніку, Анатолю Яўхімавічу Беламу – здароўя і доўгіх гадоў, ды і вялікай пашаны ўдзячных нашчадкаў роднага краю.

А ў паслядоўнасці дадам: так хочацца верыць, што гэта даўно вядомая ў нас ініцыятыва стварэння музеяў будзе падхоплена, і надыйдзе час, калі кожная вёсачка, кожнае мястэчка і кожная ўласная сядзіба будуць мець сваю, не ў архівах дзесь, а адкрытую для ўсіх гісторыю. Гэта і ёсць повязь мінулага, цяперашняга і будучага, а без гэтай повязі няма цывілізаванага руху.

*Мікола Лавіцкі.*

P.S. Калі ўжо матэрыял быў падрыхтаваны, стала вядома, што з Кембрыджскага міжнароднага біяграфічнага цэнтру прыйшло паведамленне аб занясенні прозвішча А.Белага ў спецыяльны энцыклапедычны даведнік “2000 выдатных інтылектуалаў XX стагоддзя” і што ён ўзнагароджаны адпаведным медалём.

***На здымках: А.Белы сярод Навагрaдскіх муроў. Выступае на I з'ездзе ТБМ 27 чэрвеня 1989 года.***



Ад рэдактара:

Мне давялося бачыць Анатоля Белага мо разоў з пяць. Я пачуў пра Белага недзе ў 1988 годзе, а з 1990 я дасылаў яму з Казахстана газету “Рокаш”.
З тога часу я пастаянна чую: “Белы зрабіў тое , Белы зрабіў гэта”,-- і вельмі рэдка чую: “Белы сказаў...” Анатоль Белы не проста з той катэгорыі людзей, якія ўмеюць рабіць, але з той, якія ўмеюць і робяць. Белага не так хутка ацэняць і не так хутка прызнаюць, бо няма прарока ў сваёй Айчыне, але тыя, хто рэальна ведае спадара Анатоля, і цэняць, і шануюць Анатоля Белага і ганарацца Беларуссю, якая яшчэ здольна нараджаць такіх волатаў.
Я жадаю Анатолю Беламу, перш за ўсё, здзяйснення ўсіх яго задумаў на карысць Беларусі, бо ў тым -- сэнс яго жыцця.

*Станіслаў Суднік.*

## 3 лістапада

У гэты дзень споўнілася 85 гадоў з дня нараджэння Паўла Антонавіча Левановіча, беларускага пісьменніка. Пражыў нядоўга толькі 29 гадоў. вайна абарвала яго жыццё і прыпыніла творчы шлях. Нарадзіўся Павел Левановіч у вёсцы Мазалава Мсціслаўскага раёна Магілёўскай вобласці. Паходзіў з сялянскай сям'і. Закончыў сялянскую школу, затым вучыўся на першым курсе геафака БДУ. Увогуле, звесткі пра яго жыццёвы шлях вельмі кароткія. Вядома, што Левановіч удзельнічае ў паходзе Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь. У 1941 годзе прызваны ў войска і пачаткам вайны на фронце. Пад час адступлення летам 1941 года пад Крычывам трапіў у акружэнне, а затым і ў палон. Быў змешчаны ў Крычаўскі лагер для ваеннапалонных, адкуль уцёк. Вымушаны быў застацца на тэрыторыі акупаванай нямецкімі войскамі, звязаўся з мсціслаўскім падполлем, дапамагаў партызанам.



У кастрычніку 1943 года зноў у Чырвонай Арміі і зноў на фронце. У баі ля вёскі Старынка Горыцкага раёна цяжка паранены і 20 снежня 1943 года памёр ад ран. Тут жа пахаваны.

Першыя творы Паўла Левановіча пачалі з'яўляцца ў 1934 годзе ў газетах "Палеская праўда", "Літаратура і мастацтва" ды часопісе для дзяцей "Іскры Ільіча". З 1936 года яго імя займае сталае месца на старонках беларускай перыёдыкі. Ён піша апавяданні, вершы ды нарысы. Нягледзячы на тое, што не ўсё атрымлівае́цца ў маладога пісьменніка, тагачасныя крытыкі заўважылі яго, як здольнага пачынаючага літаратара. Для апавяданняў Левановіча характэрны вастрыня і імклівасць сюжэту, трапнасць дэталяў, жывая мова. І ўжо ў 1938 годзе выходзіць яго кніга апавяданняў для дзяцей "Дружба". Творы вылучаюцца прастатой і зразумеласцю аповяду, добрым веданнем псіхалогіі дзяцей, іх інтарэсаў і захапленняў. У іх аўтар навучае дзяцей любіць прыроду, берагчы яе, вучыць быць працавітымі і сумленнымі. Літаратурная спадчына не перавыдадзена.

*Язэп Палубятка.*

## 16 лістапада

85 гадоў са дня нараджэння Язэп Семяжона, беларускага перакладчыка.

Іосіф Ігнатавіч Семяжонаў нарадзіўся ў вёсцы Пятровічы Смалявіцкага раёна ў сям'і лесніка. Скончыў Смілавічскую сярэднюю школу ў 1930 годзе ды стаў працаваць у калгасе рахункаводам, затым вучыўся на драматычных курсах у Менску. У 1932-1934 гадах актор трэцяга беларускага дзяржаўнага тэатра. а з 1934 па 1938 год студэнт факультэта замежных моў Менскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага. Па заканчэнні прызваны ў Чырвонае войска: удзельнічаў у заходнебеларускай кампаніі ды савецка-фінскай вайне, дзе быў паранены. Пасля кароткага перапынку з 1940 года зноў на вайсковай службе. Удзельнічаў у Вялікай Айчыннай вайне. Дэмабілізаваўся толькі ў 1959 годзе. З 1953 года па 1960 выкладаў замежныя мовы ў Менскім суvoраўскім вучылішчы, затым па 1975 год у Беларускім дзяржаўным універсітэце, адначасова працаваў у рэдакцыі часопіса "Беларусь".



Першую пробу пяра можна аднесці да 1931 года. У той час ён піша вершы пад псеўданімам Язэп Азім.

Язэп Семяжон – вядомы перакладчык. Першыя яго пераклады з Байрана з'явіліся ў 1938 годзе. Палітра перакладаў самая разнастайная: як класіка так і сучаснасць. Ён працуе з творамі пісьменнікаў ЗША, Англіі, Францыі, Італіі. Сярод іх У.Шэкспір, Дж.Байран, Р.Бёрнс, У.Блейк, У.Уітмен, Дж.Кітс, М.Твэн, Э.Панье ды іншыя. Выйшлі кнігі "У.Шэкспір. Трагедыі" (1954г.), Дж.Радары "Неапаль без сонца" (1955г.), Р.Бёрнс "Шатландскае слова" (1957г.), раман М.Твэна "Жанна д'Арк" (1960г.). былі пераклады з нямецкай (Г.Гейнэ, Б.Брэхт). польскай (А.Міцкевіч. Ю.Славацкі, Ю.Тувім. Я.Івашкевіч, Л.Падгорскі-Аколаў, венгерскай (Ш.Пецёфі), румынскай (Дж.Калінэску, З.Станку), з чэскай і славацкай моваў (В.Завада, В.Мігалік) моў.

У 1968 годзе выйшаў зборнік перакладаў Язэпа Семяжона з класічнай і сучаснай в'етнамскай паэзіі "Акалены лотас". З індыйскай мовы на беларускую здзейсніў пераклады Р.Тагора, Х.Чатападхайі, Валатхолы. Здзейсніў шмат перакладаў з рускай, украінскай. літоўскай і латышскіх моў. У 1971 годзе яго намаганнямі пабачыла свет паэма беларускага паэта-лацініста Міколы Гусоўскага "Песня пра Зубра", а ў 1977 годзе выйшла кніга выбраных перакладаў паэзіі "Сем цудаў свету".

Памёр Язэп Семяжон у 1990 годзе.

*Язэп Палубятка.*

## 20 лістапада

100 гадоў са дня нараджэння Міхася (Міхаіла Мікалаевіча) Клімковіча (1899-1954) беларускага пісьменніка, аўтара гімна БССР.

Можна па рознаму ставіцца да часоў існавання Савецкай Беларусі: ці агулам усё ганіць ці ўздымаць на неабсяжную вышыню. Быў час, была эпоха. Эпоха бальшавізму. Эпоха, якую наканавана было пражыць беларусам. І кожны пражыў яе, як мог і ўмеў. І да гэтага часу мы павінны паставіцца ў роўнай ступені справядліва, як да ўсіх іншых часоў і эпох пражытых нашым народам.

Міхась Клімковіч нарадзіўся 20 лістапада 1899 года ў вёсцы Сялітраніке Барысаўскага раёна Менскай вобласці ў сялянскай сям'і. У 1915 годзе. пад час першай сусветнай вайны, скончыў Барысаўскае вышэйшае чатырохкласнае вучылішча і тут жа здаў экзамены экстэрнам на званне народнага настаўніка. З таго ж 1915 года па 1921 год працаваў на Барысаўшчыне.

Затым на два гады быў прызваны на вайсковую службу ў Чырвоную Армію. Затым зноў настаўніцтва і паколькі быў прыхільнікам новай улады, то ў хуткім часе стаў працаваць на партыйнай і прафсаюзнай працы. З 1932 па 1934 год старшыня аргкамітэта па стварэнні Саюза пісьменнікаў БССР, а з 1934 па 1939 год старшыня яго праўлення. З 1943 па 1947 год быў галоўным рэдактарам Дзяржаўнага выдавецтва БССР, затым да самае смерці працаваў літкансультантам Саюза пісьменнікаў.

Мае вялікую літаратурную спадчыну. Друкавацца пачаў з 1926 года. Аўтар драматычных паэмаў: "Кацярына Жарнасёк" (1937г.), "Адплата", "Уся ўлада Саветам", драматычнай трылогіі "Георгі Скарына", лібрэта опер "Апошні вечар на хутары". Кастусь Каліноўскі. "Песня аб шчасці", балета "Князь – возера", аднаактовак "На віленскім шляху", "На скрыжаванні дарог", "Маленькая хмарка". У 1947 годзе выйшаў зборнік "Драматычныя паэмы".

Былі выдадзены і іншыя кнігі.

Жыццёвы і творчы шлях Міхася Клімковіча – гэта пакуты беларускага інтэлегента пад бальшавіцкім прэсам.

Пад час рэпрэсій трыццатых гадоў паэт адчуваў, што ў любы момант яго могуць забраць. У роспачы ён паспрабаваў сабе перарэзаць горла. Яго ўратавалі, але да канца дзён сваіх гаварыў шэптам. Потым захварэў на сухоты і заўчасна ў 54 гады памёр.

Песня, што стала гімнам БССР была напісана ў 50-е гады. Яе прыпеў заканчваўся словамі: "Слава табе беларускі народ". Журы не пагадзілася са "славаю беларускаму народу" ды выправіла на "славу савецкаму" ды "свабоднаму". Аб тым, што яго верш стане гімнам Клімковіч даведаўся за дзень да смерці. Ужо сям'я яго атрымала прэмію у 40 тысяч рублёў.

*Язэп Палубятка.*

## 29 лістапада

Сёлета ў гэты дзень споўнілася 140 гадоў са дня нараджэння Мікалая Андрэевіча Янчука, вучонага – славіста, пісьменніка.

Ён нарадзіўся ў Карніцы. цяпер Белападляшскага ваяводства, што на тэрыторыі цяперашняй Польшчы, у 1859 годзе у свой час скончыў Маскоўскі універсітэт. Пасля заканчэння працаваў настаўнікам. А з 1892 года заняў пасаду намесніка бібліятэкара Руменцаўскага музея. хавальнікам Дашкаўскага этнаграфічнага музея ў Маскве. Яшчэ ў 1886 годзе Янчук правёў экспедыцыю ў Менскую губерню, а сабраныя пад час яе матэрыялы надрукаваў у "Минском листке". Мікалай Андрэевіч першы. хто на навуковай аснове стаў збіраць, даследаваць ды апрацоўваць беларускі музычны фальклор. Сваімі працамі "Маларускае вяселле ў Карніцкім прыходзе Кастанцінаўскага павета Сядлецкай губерні" і "Па Мінскай губерні" навуковец заклаў падмурак беларускай музычнай фалькларыстыкі.



Акрамя гэтага ён вывучаў гісторыю беларускай літаратуры і раскрыў яе ў даследаваннях "Некалькі слоў пра навейшую беларускую літаратуру", "Навейшая беларуская літаратура і яе дзеячы". "Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры: Старадаўні погляд".

Мікалай Янчук выступае адным з заснавальнікаў і рэдактарам часопіса "Этнографическое обозрение", дзе друкуе шмат матэрыялаў пра Беларусь. З 1918 года чытае курс беларускай і ўкраінскай літаратуры. Затым актыўна ўдзельнічае ў працы камісіі па стварэнні Беларускага універсітэта. а з 1921 года працуе там жа прафесарам.

Сярод іншага варта зазначыць. што Мікалай Янчук прымаў непасрэдны ўдзел у падрыхтоўцы першай кніжкі Янкі Купалы на рускай мове. Пісаў п'есы . Ён – яшчэ аўтар спрацовак рускіх, беларускіх і украінскіх народных песень. У 1921 годзе перадаў свой кнігазбор бібліятэцы БДУ (зараз гэтыя творы знаходзяцца ў нацыянальнай бібліятэцы Беларусі). Памёр у 1921 годзе.

*Язэп Палубятка.*

## 30 лістапада

У гэты дзень споўнілася сто гадоў са дня нараджэння аднаго з мэтраў беларускай савецкай літаратуры Міхася (Міхаіла Ціханавіча) Лынькова.

Шмат хто з нас саракагадовых у дзяцінстве пачынаў знаёмства з беларускай літаратурай з прачытання казкі – аповесці "Пра смелага ваяку Мішку і яго слаўных таварышаў", а потым з хваляваннем зачытваўся прыгодамі "Міколокі-паравоза". Ужо ў школе ў свой час мы абавязкова павінны былі прачытаць раман-эпапею "Векапомныя дні".

Народны пісьменнік БССР з 1962 года Міхась Лынькоў нарадзіўся 30 лістапада 1899 года ў вёсцы Зазыбы Лёзненскага раёна Віцебскай вобласці ў сям'і чыгуначніка. Яшчэ ў гады панавання Расейскай імперыі скончыў Стараседбскае народнае вучылішча, а ў 1917 годзе – Рагачоўскую настаўніцкую семінарыю. Затым настаўнічаў у Ліпініцкай земскай школе, зараз Буда-Кашалёўскі раён. У 1919 годзе прызваны быў у Чырвоную армію. У складзе яе хадзіў на Варшаву, потым паспешна адступаў.

Неўзабаве ў складзе ўсё таго ж войска змагаўся са сваімі братамі-беларусамі: удзельнічаў у аперацыі супроць атрадаў Булак-Була-ховіча. Пасля дэмабілізацыі настаўнічаў у мястэчку Свер-жань Рагачоўскага раёна. Свой першы твор-верш Лынькоў надрукаваў яшчэ ў 1919 годзе. З 1925 года працуе ў Бабруйскай акруговай газеце з жытовай да таго часу назвай "Камуніст". Пачынаў з сакратара рэдакцыі, потым прызначаецца намеснікам рэдактара, з 1928 года рэдактар гэтай газеты. Толькі ў 1926 годзе надрукаваў сваё першае апавяданне, а ўжо ў 1927 годзе пабачыў свет зборнік "Апавяданні". У тыя гады М.Лынькоў быў арганізатарам і кіраўніком бабруйскай філіі "Маладняка" БелАППа. Неўзабаве пераходзіць на працу ў Дзяржаўнае выдавецтва БССР і пераязджае ў Менск. Неўзабаве становіцца сакратаром аргкамітэта па стварэнні Саюза пісьменнікаў Беларусі.



У гэтыя гады выходзяць зборнікі пісьменніка "Гой" (1929г.)., "Андрэй Лятун" (1930г.), аповесць "Апошні звярыядавец" (1930г.).

З 1938 года па 1948 год займае пасаду старшыні Саюза пісьменнікаў. Адначасова да 1941 года быў галоўным рэдактарам часопіса "Полымя рэвалюцыі". Міхась Лынькоў у гэты час знаходзіцца на вяршыні афіцыйнай славы, але гэта не мяшае яму прыняць удзел у вайсковай акцыі Чырвонай арміі на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў 1939 годзе, дзе ён рэдагуе газету "Беларуская звязда" – орган палітупраўлення Беларскага Фронту. У гады другой сусветнай вайны рэдагаваў франтавую газету "За Савецкую Беларусь". З 1943 года па 1952 год з невялікім перапынкам дырэктар Інстытута літаратуры, мовы і мастацтва Акадэміі Навук БССР.

Пісьменнік Міхась Лынькоў не зведаў сталінскіх рэпрэсій, а зведаў славу і пашану ад тых уладароў. Ён становіцца акадэмікам Акадэміі навук БССР. Неаднаразова прымае удзел у працы сесій Генеральнай Асамблеі ААН. Быў узнагароджаны трыма ордэнамі Леніна, трыма ордэнамі Працоўнага Сцяга, ордэнам Чырвонай Зоркі. Меў багатую калекцыю медалёў.

У 1968 годзе за раман "Векапомныя дні" пісьменніку присуджана дзяржаўная прэмія БССР імя Якуба Коласа.

Памёр 21. 09. 1975 года.

Не ўсё напісанае пісьменнікам за доўгае жыццё захавала сваю актуальнасць і значнасць. Шмат што адышло і засталося толькі ў аналах гісторыі беларускай літаратуры, як напісанае беларускай "наркомаўкай".

*Язэп Палубятка.*

